Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі .. ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 14 (102) | Вільня, 13-га кастрычніка 1936 г. | Год 4-ты.

## Дзіўна і незразумела.

Беларускае пытаньне ў Польшчы дасюль ня вырашана.

Яшчэ і да сягодняшняга дня ў адносінах урадовых колаў да беларускае справы няма яснай і выразнай лініі, няма аніякай праграмы і амаль кожны прадстаўнік улады на свайму вырашае беларускае пытаньне.

Калі перад 1926 годам, маючы тады ўладу, эндэцыя мела прынамся выразны пагляд на беларускую справу, цьвердзячы, што беларусаў у Польшчы няма і быць ня можа, то пасьля 1926 году такі пагляд сярод урадовых колаў зьнік, бо-ж кожны сапраўдны дзяржаўны дзеяч мусіць лічыцца з праявамі жыцьця, а гэныя апошнія якраз паказваюць, што *беларусы былі, ёсьць і будуць*, і што з гэным фактам трэба заўсёды лічыцца усім тым, хто стаўляе пэўныя гароскопы на будучыню нашых зямель.

Аднак адсутнасьць хоць якой - небудзь праграмы ў практыцы даводзіць да таго, што паступаньні ня годзяцца адно з другім, а вельмі часта і пярэчаць адно другому, прычым здараецца, што людзі адрабляюць тое, што рабілася іх папярэднікамі, на што шмат было патрачана і энэргіі і часу.

Адным з прыкладаў гэнага зьяўляецца апошняе здарэньне ў нашым грамадзкім жыцьці.

Вось-жа ў канцы верасьня сёлетняга году Дырэктар Беларускай Філіі Дзяржаўнае Гімназіі імя Ю. Славацкага ў Вільні гр. Радаслаў Астроўскі распараджэньнем Міністэрства Асьветы пераведзены з Вільні у польскую гімназію у Лодзь. Дзіўны і незразумелы такі перавод гр. Р. Астроўскага.

Як ведама, гр. Р. Астроўскі зьяўляецца ініцыятарам польска - беларускага паразуменьня, ініцыятарам зьбліжэньня і супрацоўніцтва двух братніх народаў, польскага і беларускага.

Думка аб гэным паразуменьні зьявілася яшчэ за некалькі год перад „Грамадою". Аднак тады не знайшлося належнага зразуменьня важнасьці і неабходнасьці гэнага паразуменьня з боку польскага грамадзянства. І толькі „Грамада" ясна і выразна паказала ўсім, хто мог і хацеў зразумець, наколькі польска-беларускае паразуменьне зьяўляецца важным і неабходным і ў жыцьці абодвух народаў і ў інтарэсах Польскае Дзяржавы.

Гр. Р. Астроўскі зьяўляецца адным з тых грамадзкіх дзеячоў, якія ідэю польска-беларускага супрацоўніцтва пачалі рэалізаваць, пачалі праводзіць у жыцьцё.

Ня лёгкая гэта работа, бо-ж шмат перашкодаў стаіць на гэнай дарозе, а ў першую чаргу тормазам у гэтай працы зьяўляецца адсутнасьць належнага зразуменьня неабходнасьці такога супрацоўніцтва сярод шырэйшых колаў грамадзянства як беларускага, так, і то асабліва, польскага, сярод якога згубныя для Дзяржавы эндэцкія пагляды даюцца ў знакі і цяпер, ды яшчэ, мусі, доўга будуць адгукацца, пакуль нязломныя правы жыцьця канчальна іх не заглушыць.

Пры такім палажэньні, калі як з аднаго, так і з другога боку зьяўляюцца ня толькі пэўныя засьцярогі, але і на нічым не аснаваны недавер, толькі 1-кі з сільнай воляй і моцнымі нэрвамі могуць усё-ж такі гэную ідэю рэалізаваць. Аднак здараюцца мамэнты, калі нават і гэныя моцныя адзінкі спатыкаюцца з перабоямі ў сваёй працы.

Вось-жа адным з такіх мамэнтаў можна лічыць раптоўны перавод гр. Р. Астроўскага з Вільні.

Пераводам гр. Астроўскага нанесены цяжкі удар польска-беларускаму паразуменьню, бо-ж гр. Астроўскі зьяўляецца выдатным беларускім дзеячом і культурна-асьветным і грамадзкім, з якім разам ідуць і беларуская інтэлігэнцыя і беларускія творчыя народныя гушчы, ідуць якраз тыя, хто уважае нават невялікую позытыўную працу важнейшай за малярэальныя лятуценьні. Такім чынам гр. Р. Астроўскі належыць якраз да тэй групы беларусаў, якая лічыць неабходным польска-беларускае зьбліжэньне і супрацоўніцтва. І вось цяпер, з пераводам гр. Астроўскага у Лодзь, у шмат каго з гэнае групы можа зьявіцца сумлеў у мэтазгоднасьці гэнае працы...

У сучасны мамэнт трудна згадаць, як пойдуць далейшыя выпадкі, аднак трэба цяпер ужо адзначыць,што польскае грамадзянства мусіць нават не затрымацца над пытаньнем польска-беларускага супрацоўніцтва і пастарацца паправіць тыя памылкі, якія дагэтуль былі зроблены, да аднэй з якіх можна залічыць і перавод гр. Астроўскага.

## Разьвітаньне з дыр. Р. Астроўскім.

9-га кастрычніка Віленская Беларуская Гімназія разьвіталася з сваім Дырэктарам, які загадам Міністра Асьветы пераведзены, як вучыцель, у польскую гімназію імя М. Капэрніка ў Лодзь.

Пасьля трох лекцыяў сабралася ўся моладзь у вялікай, адумыслова ўдэкараванай, салі хлапцоўскага Інтэрнату, дзе, стаўшы шпалерамі, чакала свайго даўгалетняга Апякуна. Напружаная цішыня. Урэшце прыйшлі: гр. Р. Астроўскі, дырэктар гімназіі імя Ю. Славацкага З. Жэрэбэцкі і вызначаны Куратарам Віленскага Школьнага Вокругу Новы Дырэктар гр. А. Анцукевіч.

Ад імя вучнёўскае моладзі прамовіў Старшыня Агульна-Школьнае Рады вуч. VII кл. В. Новік. У шчырых словах ён выказаў жаль і крыўду, выкліканую ў юнацкіх сэрцах пераводам Дырэктара. На заканчэньне ён даў на памятку ад вучнёўскай моладзі беларускі нацыянальны сьцяг, які, як сказаў Новік, будзе прыпамінаць аб лучнасьці моладзі з Дырэктарам.

Ад імя вучаніц, з інтэрнаваных у жаночым Інтэрнаце, прамаўляла вучаніца VII кл. М. Друцька.

Наступна вельмі прыгожа прамаўляў вуч. VII кл. М. Мялешка, які падчыркнуў самаахвярнасьць Дырэктара ў працы для школы.

Ужо нінае столькі гадоў, сказаў вуч. Мялешка, як дзякуючы Вашым стараньням быў заложаны першы хлапцоўскі інтэрнат. Сёлета якраз 18 гадоў, як дзеці беларускіх сялян пакідалі сваіх бацькоў і ехалі ў далёкую Вільню па асьвету, дзе знаходзілі ўсё неабходнае для таго, каб магчы вучыцца.

І часта, калі родныя бацькі забываліся аб сваіх дзяцёх, то тут быў другі бацька, які ніколі аб іх не забываўся і які часта для іх *з нічога рабіў усё.*

І так прайшло некалькі гадоў. СыныБеларусі,якія мусілі-б і далей вясьці сваё батрачае жыцьцё, сталіся людзьмі, якія або ехалі на вёску, каб там усьведамляць сваіх братоў, або далей здабывалі асьветы.

У хвіліну, калі трэба найбольшае энэргіі, калі трэба сталёвых рук, Вас ад нас забіраюць, і бяз Вашае згоды, як гэта Вы сказалі ў „Kur. Wileńskim".

Чаму? Нам ня можна гэтага ведаць? Але нашыя маладыя сэрцы адчуваюць... Вас адсюль забіраюць таму, што Вы рабілі для нас больш, чым былі павінны рабіць. Таму, што часта позна уночы сядзелі ў гімназіі, думаючы аб тым толькі, як палепшыць наш быт...

Вас пераносяць ня толькі з гімназіі, але з Віленшчыны, або, лепш кажучы, з Беларусі. Так! Бо той, хто хоча парваць ніці, якія Вас лучаць з гімназіяй, адначасна рве іх і з Бацькаўшчынай. Але мыляецца той, хто так думае! Якраз сувязь гэтая станецца яшчэ мацнейшай, яшчэ цясьнейшай. Сягодня мы Вас праводзім так, як праводзяць дзеці свайго бацьку перад вялікім падарожжам, пэўныя, што бацька хутка вернецца. Бо-ж ці можа бацька пакінуць сваіх дзяцей, сваю хату, дзе ён палажыў, столькі працы і сіл? Не! Бацька вернецца!... Мы ведаем, што Вам на чужыне будзе нялёгка. Але ў гэтыя шэрыя гадзіны будзьце заўсёды пэўныя, што мы аб Вас незабываем, што мы таксама жывем аднэй думкай — як найхутчэйшага спатканьня на сваіх старых беларускіх шляхох.

Ад беларускіх Скаўтак і Скаўтаў прамаўлялі: вуч.III кл.Чабаянка і вуч.VIII. К.Пауль.Скаўты выказалі сваю гатоўнасьць на кожны кліч свайго адыходзячога Дырэктара. Скаўт К. Пауль падарыў ад скаўтаў сьцяжок з сякеркай і крэсіва як сымбаль агню, які даюць яны у чужыну Дырэктару. У прамовах сваіх вучні выказалі моцную веру ў хуткі паварот Дырэктара, называючы яго сваім „бацькам".

Грам. Анцукевіч падкрэсьліў, што мы перажываем ня толькі сумны і важны мамэнт, як гэта зазначалі вучні, але ў пэўнай меры і гістарычны мамэнт, бо грам. Астроўскі быў найвыдатнейшым культурным і грамадзкім дзеячом у нашым краі і рабіў найбольш дабра для Беларускага Народу.

Дырэктар гімназіі імя Ю. Славацкага З. Жэрэбэцкі ў шчырых словах падкрэсьліў, што школьныя ўлады заўсёды лічылі грам. Астроўскага за незраўнанага пэдагога і ўзгаднаваўцу і ішлі заўсёды на спатканьне Гімназіі

Трэба было бачыць сьлёзы моладзі і яе напружаньне, каб здаць сабе справу, як шчыра яна любіла свайго Дырэктара. Грам. Астроўскі у даўгой і глыбока прадуманай прамове разьвітаўся таксама. Ён падкрэсьліў значэньне асьветы і працы для нас, беларусаў. Ён выцярпеў шмат, але Ен моцна верыць у лепшыя дні. Калі ён вернецца, пабачыць Гімназію ў лепшым, цьвітучым стане, бо для яе-ж дабра ён адарваны „ад родных ніў, ад роднай хаты"...

Уканцы школьны аркестар адыграў „Ад веку мы спалі" і марш.

Усе разыйшліся ў сумным і прыгнечаным настроі.

10-га кастрычніка разьвіталіся з дыр. Р. Астроўскім беларускія арганізацыі.

## Прамова Дырэктара Р. Астроўскага.

Паважаныя, Пане Дырэктар, Калегі, Грамадзянкі і Грамадзяне і дарагія дзеці.

Трудна мне словамі выказаць сваё пачуцьці да Вас, але пастараюся зараз сабраць сваё думкі.

Ня ведаю, ці то дзякучы людзкой духовай структуры, ці то можа недасканальнасьці арганізацыйных формаў сучаснае школы вытвараецца часта ў школе такая атмасфэра, калі ў некаторых мамэнтах трудна бывае ўстанавіць цесны духовы кантакт паміж вучням

і вучыцелем. А ўрэшце тое самое наглядаем і ў жыцьці сям'і паміж старэйшым і малодшым пакаленьнем.

Патрэбны нейкія надзвычайныя падзеі, каб душа чалавека адкрылася, ці лепш кажучы, вызвалілася з яе матэр'яльных рамак для злучэньня з душою блізкіх ёй істотаў.

З сяньняшнім днём я фактычна перастаю матэр'яльна жыць з Вамі і дзеля гэтага можа і вашыя душы і мая душа вызвалілася, каб злучыцца разам у адным духу, ў аднэй волі ў адным жаданьні.

Зразумела, што гэтае праблемы, дзе і калі пачынаецца самастойнае, незалежнае ад цела чалавека, існаваньне яго душы мы тут з Вамі сяньня ня вырашым.

Над гэтым пытаньнем працавалі ўжо тысячы пакаленьняў і перш філёзафы інтуіцыйна, так сказаць, а пасьля вучоныя экспэрымэнтальна далі нам туманныя пакуль што вехі таго шляху, па якім навука павінна дайсьці да разьвязкі.

Вялікі філёзаф Дэкарт выказаў калісь свой пагляд на гэтае пытаньне кароткім сказам: „Cogito — ergo sum", думаю гэта значыць існую.

У звычайнай мове гэта азначае, што ані думкі, ані розуму нельга ўціснуць у нейкія матэр'яльныя рамкі. Незважаючы аднак на гэта мы ведаем, што і думка і розум існуюць.

І так як кветка, а пасьля плод кожнае расьліны зьяўляюцца кульмінацыйным пунктам яе разьвіцьця, так кульмінацыйным пунткам разьвіцьця чалавека будзе найбольшае напружаньне яго думкі, найбольшае разьвіцьцё яго розуму.

Дзякуючы якраз гэным сво-масьцям душы чалавека, і заняў ён першае месца ў прыродзе. Дзякуючы думцы і розуму свайму, чалавек здольны быў прыйсьці да вываду аб неабходнасьці супольнага, грамадзкага, так сказаць, жыцьця і ступнёва ад сям'і праз роды лучыцца ўрэшце ў паасобныя большыя ці меншыя народы.

Народ гэта ня значыць мільёны паасобных людзкіх адзінак, а гэта тысячы пакаленьняў разам з іх думкамі і працаю.

І хоць пакаленьні за пакаленьнямі кладуцца ў магілу, аднак паасобныя нябошчыкі жывуць разам з намі праз літэратуру, навуку, мастацтва, творачы адну, так сказаць, душу народу, катораяпраходзіць розныя этапы свайго разьвіцьця і заняпаду.

Ясна, што існаваньне і Беларускага Народу, як пэўнае грамадзкае адзінкі, не падлягае ніякаму сумліву, а нашыя лясы і нівы, вёскі і сёлы, хаты і мастацкія тканіны становяць ягоную матэр'яльную цывілізацыю.

І калі Дэкартаўскага „Cogito-ergo sum" хапала для лёгічнага довадуіснаваньня чалавека, дык сылёгічнае: „Laboro — ergo sum" — „Працую — значыць існую" — павінна хапіць для сьцьверджаньня існаваньня людзкое грамадзкасьці, як цэласьці, як народу.

З усяго папярэдняга вынікае, што думкі ўсіх грамадзян кожнага народу твораць яго думку, імкненьні ўсіх — гэта імкненьні народу, воля ўсіх — гэта народная воля, а згодная праца ўсіх — гэта дабрабыт, багацьце і магутнасьць народу. Гэта аксіомы, якім запярэчыць нельга.

Як бачым, для дабра народу патрэбная толькі згодная праца ўсяго грамадзянства, але дасягнуць як ведама гэтага нялёгка.

Падобна да таго як чалавек складаецца з дзьвёх частак — матэр'яльнай і духовай, так і душа яго ў сваю чаргу дзеліцца таксама на дзьве часткі—адну асабістую, эгоістычную, зьвярыную і другую — народную, альтруістычную. Гэтыя дзьве душы бязупынна ў кожнага з нас змагаюцца.

Уступкі якраз эгоістычнай душы чалавека на карысьць душы грамадзкай і здолелі злучыць народ у адну спэцыфічную, зьвязаную нейкімі таёмнымі сіламі грамаду.

Сіла Народу—ў пачуцьці грамадзкага абавязку паасобных грамадзян. Вось чаму, дзеці, школа дамагаецца ад вас сумленнае працы ў выконваньні кожнага вашага абавязку! Праца і пачуцьцё грамадзкага абавязку патрэбны ня толькі для шчасьця вашага асабістага, але адначасна для шчасьця і магутнасьці Беларускага Народу!

Пераходзячы цяпер да таго, што тут гаварылася аба мне, маей працы, маіх нейкіх заслугах, павінен буду даць пэўнае спраставаньне.

Па першае: тое што зроблена, зроблена ня мною адным, а супольным высілкам і прысутных і адсутных калегаў і грамадзян.

Па-другое: нічога надзвычайнага я не зрабіў. Я выканаў толькі свой грамадзкі абавязак так, як яго разумеў, а гэта-ж ніякая заслуга.

Вось і ў сучасны мамэнт, калі атрымаў загад пакінуць ня толькі сваю родную школу, але нават і сваю Бацькаўшчыну, доўга разважаў над тым, як паступіць з пункту гледжаньня грамадзкага, бо-ж з пункту гледжаньня асабістага найлепш было-б адмовіцца і перайсьці ў вострую, так сказаць, опозыцыю. Паеду ў Лодзь зусім спакойны, бо-ж з пункту гледжаньня грамадзкага мой выезд павінен лёгічна спрычыніцца якраз для большага разьвіцьця дарагое і мне і ўсім нам нашае гімназіі. Будзьце спакойны і Вы, грамадзяне і дзеці. Памятайце, што згодна з заяваю Міністра Асьветы мяне выкінулі адсюль для „*дабра школы*". А гэта-ж для нас, для ўсяго беларускага грамадзянства



Р. АСТРОЎСКІ
б. Дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі.

найлепшы вэксаль, дадзены беларускаму народу. Дабро нашае гімназіі палягае бязумоўна на яе разьвіцьці, да чаго як відаць з дадзенага вэксаля польская ўлада і будзе імкнуцца.

Для мяне гэтага хапае, каб спакойна выехаць у Лодзь, выехаць бязумоўна толькі на нейкі час, бо-ж на Бацькаўшчыну я вярнуся і веру што варункі да гэтага часу для беларускага народу зьменяцца на лепшае.

Асабіста ніколі ня меў супакою, а заўсёды жыцьцё маё запоўнена было, пераважна большымі ці меншымі контрастамі. Я да гэтага прывык.Некалі царскі ўрад кідаў мяне ў вастрогі, высылаў... не пазваляючы паказвацца ані ў водным унівэрсытэцкім горадзе, а праз пару гадоў той-жа ўрад паклікаў мяне ўзгадоўваць народных вучыцялёў — у вучыцельскі інстытут. Быў час, калі і польскі ўрад выслаў мяне ў далёкія Вронкі, а па вуліцах Вільні вялі ў ланцугох, а пасьля... праз пару гадоў той-жа польскі ўрад паклікаў мяне на дзяржаўную пасаду...

Адным словам усё мяняецца. Вечная толькі ідэя — ідэя чыстая, высокая! Ня трэба праймацца дачаснымі няшчасьцямі ды непаводжаньнямі, а не апускаючы рук бязупынна імкнуцца да зьдзейсьненьня свае мэты,сваіх ідэалаў... Ідэя польска-беларускага згоднага сужыцьця не загіне, яна зьдзейсьніцца, бо-ж беларускі працоўны народ заўсёды паразумеецца з польскім працоўным народам. Больш ёсьць тых элемэнтаў, якія гэтыя братнія народы лучаць, чымсь тых, якія іх дзеляць.

Ясна, і паляком, і беларусам трэба памятаць толькі аб тым, што так прыгожа калісь сформуляваў Маршалак Пілсудскі:

Kto duszy żąda, duszę dać musi;
Kto po duszę sięga, ten duszą płaci!



## Беларускія песьні ў радыё.

6-га кастрычніка віленскае радыё-станцыя перадавала праз радыё беларускія народныя песьні, якія пяюцца ўлетку, пры гэтым у польскай мове даваліся тлумачэньні аб характары і аб зьмесьце гэных песьняў.

Падбор песьняў выпаў някблага, трохі можа аднастайна, бо-ж, прыкладам, у нас, у маладэчанскім павеце, пяюць улетку ня толькі сумныя, але і вясёлыя песьні і толькі ўвосень пераважаюць сумныя песьні. Ізноў-жа каля нас пашыраны і хлапцоўскія песьні, а ў радыё чамусьці пялі жаночыя галасы, ня лічачы двух песьняў мяшаных і таму магло здацца, што нашыя хлапцы або зусім не пяюць або пяюць вельмі мала. А ў сапраўднасьці нашыя хлапцы пяюць, ня менш за дзяўчат, асабліва ў часе сенакосу ды на начлезе.

Пялі песьні добра, адразу відаць, што пяе іх *беларускі хор*. Аднак у радыё ізноў чамусьці баяліся ці не хацелі сказаць аб гэтым, кажучы агульнікова, што песьні пяе хор пад кіраўніцтвам гр. Рыгора Шырмы. Наколькі нам ведама гр. Шырма кіруе беларускім хорам і таму трэба было сказаць, што пяе беларускі хор.

Нешта падобнае здарылася і з азначэньнем таго, чые гэныя песьні. У радыё сказалі проста, што гэта „тутэйшыя" песьні, ізноў-такі ня хочучы сказаць, што гэта *песьні беларускія*.

Чаму і дзеля чаго так робіцца, трудна зразумець. Хіба што гэтым хочуць паказаць, што на нашых землях няма нейкіх там беларусаў, а ёсьць проста людзі тутэйшыя. Карацей кажучы, усё выглядае так, быццам мы жывём ня ў 1936, але ў нейкім 1866 годзе, калі усё беларускае было забаронена і наш чалавек, ня хочучы і ня могучы залічаваць сябе або да палякоў або да расейцаў, называў сябе „тутэйшым".

Але цяпер, калі мінула ад таго часу 70 гадоў, калі наш народ столькі пражыў і благога і добрага, проста сьмешна думаць аб тым, што ён і цяпер лічыць сябе „ту-

# Граматка і граматыка.

*(Яшчэ аб буквары).*

На маю рэцэнзію аб беларускай граматцы для хатняга навучаньня, ўложанай гр-нам С. Паўловічам пад назовам „Першыя зерняткі" і выданай сёлета Язэпам Малецкім, вельмі нэрвова адгукнуўся нехта Ф. Г-н у „Беларускай Крыніцы" (№ 39 за 27. IX. 1936).

Быў-бы рад, каб мой опонэнт усе, заўважаныя мною, памылкі ў „Першых зернятках" зьвёў на ніштo — каб памыляўся я, а ня аўтор „Першых зернятак". Рад быў-бы, каб, пасьля адказу мне ў „Беларускай Крыніцы", беларуская граматка для хатняга навучаньня зрабілася ідэальнай — каб „Першыя зерняткі" аказаліся чыстымі, як раса Божая.

Нажаль, адказ гр-на Ф. Г-на закідае мне ледзь ня ўсе „сем сьмяротных грахоў" ды больш нічога.

Я, бачыце, і... „крытык" (раз у чужаслове, а раз без яго) „Роднага Краю" і літаральна бяру тое, што ў „Першых зернятках" надрукована (вось дык грэх!), і шмат яшчэ чаго, на што, дзеля ашчаджаньня часу і месца, падробна адказваць не магу дый карысьці ад асабістай палемікі вялікай ня бачу.

Хацеў-бы абмежавацца толькі „навуковай" аргумэнтацыяй ды некаторымі толькі закідамі майго опонэнта. А дзеля таго, што асабіста яго ня знаю, дык сьмею запэўніць, што ніякіх рахункаў ня маю з ім і прывык наагул цаніць усякую беларускую кніжку, паводле яе зьместу і мэты, якой яна мае служыць, не зьвяртаючы кардынальнае ўвагі на яе аўтора.

Мой опонэнт, паміж іншым, прызнаецца:

„У буквары запраўды ёсьць памылкі — граматычныя, артаграфічныя (асабліва што да правілаў аб т. зв. аканьні) і друкарскія"...

Дзякуй хоць за гэта!

Памылкі друкарскія (карэктарскія), хоць часам зусім няважныя, здарыліся, на вялікі жаль, і ў маёй рэцэнзіі ў № 9 „Роднага Краю".

Знаходжу там адну нават і досыць грубую памылку: замест „газоўкі" надрукована: „лазоўкі".

Але здаецца мне, што нават і карэктарскія памылкі ў „граматцы" зьяўляюцца недапушчальнымі.

Для таго, хто будзе карыстацца „Першымі зерняткамі" зусім ня цікава, хто ў іх нарабіў памылак: аўтор, карэктар, друкар, ці выдавец? Кожны падручнік пажадана бачыць бяз ніякіх памылак.

Прызнайцеся, мой паважаны опонэнт, што ў „Першых зернятках" нават і таго, што Вы лічыце памылкамі, вельмі ўжо шмат! І тут невінаваты: ні сучасны стан нашае літэратурнае мовы, ні беларускі лексыкон, ні тое, што ў нас „няма яшчэ аканчальна зацьверджаных граматычных формаў". Дый хто гэтыя формы мае зацьвярджаць?!

Перакапаць беларуса, што ён павінен казаць *малатарка* (а можа і *кнігарка, сячкарка*?), замест *малатарня*, ніяк нельга тым, што „канчатак „ня" характарны для заходня-славянскіх языкоў"...

Таксама трудна даказаць, што расейскае слова *пылают* адразу зробіцца беларускім, як толькі дадамо да яго мягкі знак ды, зусім зразумела, *т* зьменім на *ц*. Беларусы кажуць пра агонь, калі ён гарыць полымем, — *палае*, але гэта ўсё-ж такі розьніца.

Што *тытун* кураць, *табак* нюхаюць — першы раз у жыцьці чую Ці яе кураць, ці яе нюхаюць — пабеларуску заўсёды будзе *табака*. Ніколі, як гавару або пішу пабеларуску, я слова *табак* ня ўжываю; ня ўжыў яго і ў сваёй рэцэнзіі. Чыё гэта слова — ведама кожнаму хто „ў маскалі хадзіў" служыць. Няварта хіба тлумачыць і чыё слова *тытун*?

Слова *шран* мне зусім невядомае; тут перакручана ўжытае мною

сьціхла. Прыйшла коньніца паўстанцаў. Дзесяткі азброеных мароканцаў на сьпененых конях, праляцелі па пустых вуліцах гораду з дзікімі крыкамі.

На адзін з падворкаў зганялі раззброеных чырвоных міліцыянэраў, у тым ліку і расказчыка, які расказвае далейшае:

— Недалёка ад мяне пачуўся дзікі крык. Нейкі мароканскі стралец літаральна за валасы валок ашалеўшую ад болю маладую жанчыну. Я быў рвануўся наперад, але атрымаў моцны ўдар прыкладам па галаве і, пахіснуўшыся, ледзь ня ўпаў.

— „Што вы робіце?—крыкнуў я праходзіўшаму каля мяне афіцэру, — то-ж гэта жанчына, ябраўшыя ў баёх ніякага ўдзелу!"

Афіцэр сьціснуў плячыма. Адзін з мароканцаў ударыў жанчыну ботам па твары.

— „Як вам ня сорамна!—ізноў закрычаў я, — у прысутнасьці гішпанца мароканец катуе гішпанку!"...

Афіцэр ламанаю гішпанскаю моваю, адказаў: — „Маўчаць! Гэта—чырвоная прастытутка!"

Мяне ўпіхнулі ў натоўп раззброеных таварышоў. Адзін з афіцароў, таксама ламанаю гішпанскаю мовою, спытаўся:

— „Хто з вас тутэйшы, няхай выйдзе наперад!"

Колькі чалавек паслухняна выйшлі наперад. Востра затрашчалі рэвальвэры. Выйшаўшыя ўпалі. Сярод афіцароў разьлёгся сьмех... расстрэльваючы палонных, яны перакідаліся ўвагамі хіба што на ўсіх мовах сьвету. Гэта былі прадстаўнікі гішпанскага „Чужаземнага Легіёну"...

Гэта—на адным баку барыкады.

А на другім яе баку вядомы гішпанскі вучоны і палітык, прафэсар мадрыдзкага унівэрсытэту Эмануэлё Родрыгэз ледзь уратаваўся ад чырвоных міліцыянэраў, а свой расказ, пра „ўцёкі з пекла", у тым самым францускім журнале выкладае гэтак:

— „Я бароўся з монархіяй. Быў ворагам Альфонса XIII-га. Рэспубліка ў маёй асобе мела вернага абаронцу, барацьбіта і энтузіяста. З пераканацьня я быў крайнім радыкалам. Усё жыцьцё сваё, веду і энэргію я злажыў у ахвяру народу. І, ня гледзячы на усё гэта, з мяне зрабілі ворага народу. Я хаваўся, як зацкованы зьвер, уцёкшы нявольнік, а не як барацьбіт за волю і шчасьце народу і Гішпаніі.

Укрываўся. Хаваўся. Мяне прасьледавалі. Мне была прызначана буйная порцыя куляў і сьцяна майго дому, на якую я мог абапёрціся апошні раз.

За што?!

Ня ведаю.

Можа за тое, што я ня быў камуністым, а быў проці крывавых бяссудных казьняў тысячаў нявінных закладнікаў?... А магчыма і за тое, што я быў з дэлегацыяй у прэм'ера, просячы літасьці для нявінных. Мы з усяе душы не хацелі, каб штандары „Народнага Фронту" былі запэцканы крывёю нявінных ахвяраў... Сягоньня я ў бясьпецы. Мне ўдалося вырвацца з мадрыдзкага пекла. Сталася! Я павінен, я абавязаны зрабіцца ворагам тых, хто там застаўся, бо пекла, перажыванае сталіцаю, можа быць названа толькі бяспрыкладным і крывавым барбарствам!"

Прафэсар расказвае, як на другі дзень, пасьля дэлегацыі ў прэм'ера, кватэра яго была ўся перавернена дагары дном. Пяць юнакоў і нейкі старэйшы за іх тып у блішчастай скуранон куртцы-трасьлі ўсё, шукаючы нават у печах і за абіўкаю сьценаў. Чаго? Прафэсар ня ведаў.

Калі прафэсар спрабаваў загаварыць пра свае мінулыя рэвалюцыйныя заслугі, яму таксама груба скамандавалі: „Маўчаць!" Яму паказаўся знаёмым адзін з юнакоў. Прафэсар не памыляўся. Гэта быў яго былы студэнт. Прафэсар прыпомніў яму аб знаёмстве. Ізноў насьмешкі і каманда: „Маўчаць!"...

Нічога, што прафэсара кампрамітавала-б, не знайшлі. Тады пачалі пытацца, дзе яго жонка, маці, наагул сям'я?... Жонкі няма, бо ён—стары кавалер; маці даўно памёрла, брат у Амэрыцы, сястра ў Францыі. „Але нашто вам гэтыя інфармацыі?—спытаўся вучоны. — „Ня ваш інтэрас!"—адказалі груба,—„ну, а каханка, наагул блізкая вам жанчына, дзе?"

— „Пазвольце,—абурыўся прафэсар,—падобныя пытаньні"...

— „Кіньце вашыя буржуазныя штучкі,—грозна перабіла скураная куртка,—адказвайце!"

— „Хто гэта?" — і адзін з юнакоў паднёс да вачэй вучонага фатаграфію прыгожай сэньёрыты, знойдзеную ў стале.

Прафэсар назваў фатаграфію імем і прозьвішчам, якога наагул ня было на сьвеце, і на далейшы допыт падаў наўгад адрэс у Сан-Сэбастыяне. Прафэсар зразумеў, што ім трэ' было знайсьці закладніка...

— „Мы забярэм гэту фатаграфію, затэлефануем у С.-Сэбастыян і гора вам, калі вашыя словы — мана! Праз тры гадзіны мы вернемся!" — сказала вучонаму скураная куртка... Выйшлі.

— „Цераз тры гадзіны!—падумаў вучоны, — вастрог або куля. Цераз тры гадзіны! Тэлефон з Мадрыду ў Сан-Сэбастыян тады, як паміж імі ішла яшчэ лінія фронту хатняе вайны — гэта ўжо выразны зьдзек".

— Лёгкі стук у дзьверы. Жах! — піша прафэсар,—я ўстаў... Адчыняю. У дзьверах бабулька-швайцарыха, знаўшая мяне дзесяткі гадоў.

— „Сэньёр прафэсар!—зашаптала яна, — уцякайце! „Яны" чакаюць вас унізе. Пастанавілі застрэліць вас зараз-жа, калі спрабуеце схавацца! Праз тры гадзіны прыдуць і застрэляць. Я чула ўсю іх гутарку! Ратуйцеся!"...

Узяўшы з сабою ўсе, якія былі, грошы і крыху харчоў, вучоны мінут праз дваццаць дабраўся па тайных сходках да бруднага, бы клетка, падзямельля суседняга дому.

— „У гэтай клетцы, — кажа вучоны,—я прабыў, скурчыўшыся і змагаючыся ад слабасьці, 6 дзён. Швайцарыха прыносіла мне часам ваду. Як мне ўдалося вырвацца з мадрыдзкага пекла, хто мне ў гэтым памог, я, па зразумелай прычыне, павінен, пакуль што, змаўчаць!"...

## „Тыдзень школьнага будаўніцтва".

Ад 2-га да 8-га гэтага кастрычніка па ўсёй Польшчы арганізованы быў «Тыдзень школьнага будаўніцтва».

Міністар рэлігійных веравызнаньняў і народнай асьветы прафэсар Сьвентаслаўскі, адкрываючы гэты «Тыдзень» сваёю прамовою ў польскім радыё, паставіў побач дзьве вялікія задачы нашага пакаленьня: *падняць* абаронную сілу дзяржавы і *забясьпечыць* надходзячаму пакаленьню пачаткавую асьвету. Міністар аблічыў, што за найбліжэйшых дзевяць гадоў у Польшчы неабходна збудаваць 45.000 школьных будынкаў, значыцца будаваць трэба па 5 тычяч школаў у год.

Штогоду ў Польшчы родзіцца 800.000 новых кандыдатаў на месца ў школе. Консэрватыўная газэта „Час" у артыкуле аб «Тыдні Школы» выкрывае сучасны вельмі сумны стан народнае асьветы ў Польшчы: налічваецца 6 мільёнаў няпісьменных або анальфабэтаў. Адзін мільён дзяцей школьнага веку застаецца па-за сьценамі школы, а 30.000 маладых настаўніцкіх сілаў зьяўляюцца безработнымі.

Дзеля выхаду з гэткага палажэньня патрэбна напружаньне ўсіх грамадзіх сілаў і якнайшырэйшая ахвярнасьць на справу народнае асьветы.

УрадБеларускагаДабрадзейнага Т-ва гэтым паведамляе ўсіх сяброў Т-ва, што у нядзелю, 25 кастр. 1936 г.

адбудзецца ў памяшчэньні Т-ва (Вострабрамская вул. № 9)

**агульны гадавы сход сяброў**

з наступным парадкам дня: 1) Справаздачы ўступаючых уладаў Т-ва. 2) Зацьверджаньне бюджэтнага прэлімінару. 3) Выбары Ураду і Рэвізыйнае Камісіі. 4) Плян працы. 5) Бягучыя справы і вольныя прапазыкі.

Пачатак сходу ў першым тэрміне у 17 г., у другім—у 18 г.

Сход у другім тэрміне правамоцны пры усялякай колькасьці прысутных сяброў.

## Савецкаму Саюзу пагражае голад.

Бальшавіцкія газэты ня сьціхаюць падаваць трывожныя весткі аб ходзе сяўбы. З гэтых газэтных паведамленьняў відаць, што Савецкаму Саюзу ізноў сур'ёзна пагражае голад.

Сяляне пасыўна адносяцца да сяўбы. Асабліва ўпіраюцца сяляне ў паўдзённай Украіне. Азімых засеваў сяляне ня робяць, ня гледзячы на ніякія пагрозы і кары, ў гэтым раёне 2500 трактараў стаіць без работы. Пасьледзтвы гэткіх адносін сялян да засеўнае кампаніі, як цьвердзяць савецкія газэты, хутка сябе пакажуць: у будучым годзе, ў сувязі з гэтым, у СССР будзе голад.

## На гішпанскім фронце.

Паводле няспраўджаных яшчэ вестак паўстанцы занялі Хойа дзі Пенарэс, дзе знаходзіцца вялікая электрычная станцыя, якая дастаўляе энэргію ўсяму Мадрыду. Заняты таксама Сан-Хуан і Ля Навае дзі Масквэс, у 27 клм. ад Эскурыялу. Пры захопе Сан-Хуану паўстанцамі, трапіла ў палон 300 чырвоных салдатаў і 1000 чал. было забітых.

Атакі чырвоных каля Віла Манкеда адкінены. Скончаны ўсе прыгатаваньні да рашучай атакі на Мадрыд.

## Як Японія рыхтуецца да вайны з СССР.

„Дэйлі Тэлеграф" паведамляе аб асягненьнях Японіі ў Манджурыі. За пяць гадоў былі зусім рэарганізаваны камунікацыйныя шляхі, пабудавана 3800 кіл. жалезнай дарогі. Праведзены стратэгічныя чыгуначныя лініі — ад Квантукгскага заліву цэлы рад чыгуначных дарог злучае прыбярэжжа з цэнтрам краю. Будавалі выключна японскія працаўнікі, матэр'ял на ўсе будовы ўжываны быў таксама толькі японскі.

У будове новых жалезных дарог Японіі прышлося перамагчы сільнае сапраціўленьне тых кітайскіх компаніяў, каторыя самі імкнуліся да гегемоніі ў гэтай галіне і ўжо пралажылі ў Манджу-Го 1200 кіл. шляхоў. Да нядаўнага часу ў Манджурскай жалезна-дарожнай справе панаваў сільны хаос.

Жалежн. дарогі, пабудованыя кітайцамі, розьніліся ад японскіх ліній і лініі расейскай Кітайска-Усходняй жал. д. настолькі, што немагчыма было перавесьці вагоны з аднэй лініі на другую. Ад 1932 г. японцам удалося скоордынаваць усе сыстэмы і злучыць іх у адну чыгуначную сетку.

Новая сетка шляхоў мае і эканамічнае значэньне, злучаючы ізаляваныя раней пункты і аблягчаючы гандаль, але галоўны інтэрас аднак японцаў ляжыць у тых вайсковых магчымасьцях, каторыя атрымоўвае японская армія, дзякуючы толькі што праведзеным чыгуначным адрэзкам, якія даюць японскай арміі болей доступаў да граніцы, чым расейскай, у карыстаньні якой знаходзіцца толькі адна галоўная сібірская артэрыя.

## З усяго сьвету.

— *Чэхаславацкія легіянэры*, якія сабраліся ў Браціславе і Брно, вынясьлі рэзкія рэзалюцыі проці вайсковага супрацоўніцтва з чырвонай арміяй, проці бальшавізацыі чэхаславацкіх войскаў і проці легальнага існаваньня чэхаславацкай кампартыі.

— *Работа Саветаў у Аўстрыі*. У сувязі з арыштамі камуністаў, у Вене адбылося сьледства адноснa затрыманых асоб. Усе 11 чалавек аказаліся савецкімі грамадзянамі з фальшывымі пашпартамі. Дапушчаюць, што яны рыхтаваліся стварыць у Вене асяродзішча для камуністычнай прапаганды ў Нямеччыне і Вэнгрыі.

— *Гданск і Нямеччына*. Офіцыяльны орган гданскіх нацыянал сацыялістаў «Форпостэн» абвінавачвае мясцовых соцыялістаў у падгатоўцы ваарўжонага паўстаньня і цьвердзіць, што яны дзеля гэтага тайна даставілі аружжа з заграніцы. Газэта дамагаецца зачыненьня соцыялістычнай партыі.

Кіраўнік гданскіх нацыянал-соцыялістаў Фэрстэр у аднэй прамове заявіў:

«Данціг проці свайго жаданьня аддзелены ад Нямеччыны. Калі данцінгскім грамадзянам запрапануюць адказаць на пытаньне, ці хочаць яны адыйсьці ізноў да Нямеччыны, дык яны адказалі-б пацьвярджаючы. Данціг — дзіця, каторае ня можа жыць без сваёй нямецкай маткі».

*У Бэрліне* збор на карысьць безработных даў больш 400 тысячаў марак, на 12% больш, чым у мінулым годзе.

— У сувязі *з парадам 13 тысячаў моладзі*, якога прыняў *Мусоліні*, італьянская прэса падчырківае, што лічба вышкалёных фашыстаў, у веку ад 18 да 21 году, складаецца з 1.270.000 чалавек, у тым ліку—15 з паловай тысячаў афіцэраў.

— Форд (*Амэрыка*) будуе для сваіх працаўнікоў прыкладныя вёскі, дзе кожная сям'я атрымае зямлю і хату па таннай цане і з разсрочкай на доўгія гады.

— *За першыя паўгодкі г. г. ў СССР* з заграніцы было выпісана больш 75 тысячаў кнігаў, а заграніцу было выслана 31 тысяча экзэмпляраў.

— *Гішпанскі міністар унутраных спраў* выдаў распараджэньне зачыняць усе магазыны, тэатры і кінематографы. Ад 11 гадз. увечары да 6 гадз. раніцы будзе спынены ўсякі рух на вуліцах Мадрыду. Выходзіць на вуліцу можна будзе толькі на аснове асобых пропускаў.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.